## Сёння – Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў

# "Кавалачак хлеба з апілкамі, якія калолі ў роце"

***11 красавіка. Гэтую сумную дату адзначаюць людзі краін Еўропы, тыя, хто сутыкнуўся з жахам фашысцкай нявол і, насуперак усяму, выжыў. У гэты красавіцкі дзень 1945 года вязні Бухенвальда паднялі паўстанне. Быў раззброены канвой, абясточаны дротавыя агароджы, захоплена зброя. Звыш 20 тысяч чалавек аказаліся на волі.***

У час вайны на тэрыторыі Беларусі існавала каля 260 канцлагераў і іншых месцаў прымусовага ўтрымання мірных жыхароў. Але самае невераголнае - непаўналетнія вязні. Толькі ў канцлагеры "Азарычы" загінула каля 40 тысяч дзяцей да 13-гадовага ўзросту. А ўсяго ў крывавым віры вайны загінула 13 мільёнаў дзяцей. Думаецца, гэтая лічба - значна большая. Вайна і дзеці... Недарэчна гучыць гэтае словазлучэнне. Дзеці - гэта кветкі грамадства, а кветкі мусяць жыць. Сённяшняму пакаленню нават цяжка сабе ўявіць, якім было дзяцінства ў ваенны час. Памяць народа - гэта яго гісторыя, гэта яго гонар і сумленне. І яна, гэтая памяць, павінна захоўвацца і передавацца з пакалення ў пакаленне як нязгасны факел вялікай любові да Радзімы, да свайго народа.

"Боль душы" - так называлася класная гадзіна ў 9 "А" класе (сярэдняя школа №3 г.Вілейкі). Былі запрошаны на сустрэчу непаўналетнія вязні Вілейкі. Да гэтага дня вучні рыхтаваліся старанна: пабывалі ў музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, на Кургане Славы, у Хатыні, пазнаёміліся з серыяй карцін М.Савіцкага "Лічбы на сэрцы".

Гучыць музыка песні "Хатынь" І.Лучанка. Паступова заціхае мелодыя, і ў трывожнай цішыні пачынаецца пераклічка ахвяр.

Вучань чытае верш Ул.Караткевіча "Трасцянец". Мінутай маўчання ўшаноўваюць прысутныя ўсіх, хто загінуў.

Стаіўшы дыханне слухалі школьнікі выступленні тых, хто прайшоў праз неймаверныя катаванні. Лёс дараваў гэтым людзям жыццё. І цяпер яны не могуць гаварыць пра мінулае без слёз.

Зоя Пятроўна Рагавая, былая медсястра, зазнала пекла Бухенвальда. Яна ўспамінае:

- Я сама руская. У гады вайны трапіла ў Мінск, увайшла ў Мінскае падполле. На нашым рахунку было нямала баявых спраў. Але арганізацыю выдаў здраднік. Пачаліся арышты. Арыштавалі і мяне. Нейкі час трымалі ў Мінскім астрозе. Прайшла праз страшэнныя допыты і катаванні. А потым вывезлі ў канцлагер. Спачатку ў Асвенцім, а потым у Бухенвальд. Штодзённы голад, здзекі. На ўсё жыццё запомніла той маленечкі кавалачак хлеба з апілкамі, якія калолі ў роце, а ён жа быў такі жаданы, бо даваў сілы выжыць. Вызвалілі нас 11 красавіка 1945 года вязні, якія паднялі паўстанне. Цяжкімі дарогамі дабіралася я на радзіму. І вось жыву і знаходжу сілы гаварыць пра гэта...

Адразу пасля акупацыі Віцебска ў 1941 годзе гітлераўцы выкарысталі казармы былога пятага чыгуначнага палка Чырвонай Арміі. Яны ператварылі іх у гіганцкі канцлагер. Спачатку тут былі ваеннапалонныя, а ў 1943 годзе сюды пачалі зганяць і мірнае насельніцтва. Людзі знішчаліся рознымі спосабамі: галодным рэжымам, антысанітарыяй, інфекцыйнымі захворваннямі, здзекамі і расстрэламі. З 1941 да 1944 года было знішчана звыш 80 тысяч чалавек.

Жыхарка Вілейкі Надзея Аляксандраўна Дуровіч, непаўналетні вязень "Пятага палка", успамінае:

- Нас прывезлі ў канцлагер у 1943 годзе. У лагеры было шмат жанчын і дзяцей. Тут была страшэнная антысанітарыя. Марылі голадам. Час ад часу бралі кроў, але тады, як падарунак, давалі кубак кісялю. Мы гадзінамі выстойвалі на пераклічках, на холадзе, пад дажджом і ветрам. Многія хварэлі на тыф. Іх адвозілі ў нямецкую бальніцу, але там ніхто не лячыў, гэта быў іх апошні шлях. Паміралі людзі дзесяткамі штодня. А хто быў не хворы, тых ганялі на перадавую. Немцы хаваліся за гэтых абяздоленых людзей: маўляў, па сваіх рускія страляць не будуць... Вызвалілі нас у 1944 годзе.

Віляйчане Аляксандр Паўлавіч Рэуцкі і Надзея Фёдараўна Козел у дзяцінстве былі вязнямі канцлагера Азарычы. Да гэтага часу ў снах ім трызняцца крыкі і стогны паміраючых ад тыфу і багна Азарыцкіх балот. Балючыя і жудасныя ўспаміны.

Іван Іванавіч Шыманскі працуе начальнікам аддзела завода "Зеніт", мае безліч абавязкаў. Але калі-нікалі ўспамінае расказы маці. Год яго нараджэння быў не самым лепшым у жыцці нашага народа. Ваенная віхура панавала ўсюды, і цяжка сказаць, хто больш пакутаваў: той, хто быў на фронце, ці той, у якога галеча і нястача адбіралі апошнія сілы. Маці Іванкі, Ганна Піліпаўна, пякла хлеб для партызан. Нехта данёс гітлераўцам. Схапілі яе, а маленькі сынок застаўся ў калысцы. Ён плакаў, плакаў... Бацька Ганны панёс унука ў турму, думаючы, што дачку адпусцяць. Ды не! Малое трапіла ў лагер Кандычаў разам з маці. Затым была Германія. Толькі ў сорак пятым трапіў Іван Іванавіч на радзіму. Рос у дзіцячым доме. Не ачарсцвеў юнак без ласкі маці, без аўтарытэтнага слова бацькі. Не згубіўся ён у палоне цяжкіх гадоў.

А потым я расказала аб першым рэспубліканскім злёце дзяцей вайны, які адбыўся ў Мінску ў 1989 годзе. Я была ўдзельнікам гэтага злёту. Даўно залячыла раны зямля, але не загойваюцца раны памяці людской. Каб не паўтарыліся жахі вайны, каб ведалі людзі цану сённяшняму міру, сабраліся дэлегаты злёту. Нас было 400 чалавек. Мы гаварылі аб тым, як вайна пакалечыла наша дзяцінства, як у горы і цяжкасцях мы дужэлі і раслі. Нялёгка было ў пасляваенныя гады. Мы не ведалі бацькоўскай ласкі, бо не прыйшлі з вайны нашы мамы. У іх былі мары, імкненні і вялікае жаданне жыць.

Сённяшнім вучням нават уявіць цяжка, праз якія выпрабаванні давялося прайсці дзецям вайны.

У пяць гадоў я трапіла разам з маці, братам і сястрой у канцлагер Віцебска. Прайшло шмат часу, але і сёння я чую брэх нямецкіх аўчарак, чужую мову, плач дзяцей і крык матуль. Жудасная карціна жыцця ў лагеры смерці не сціраецца ў маёй памяці. Я ўжо даўно працую настаўніцай. Прафесія мая - самая мірная. Перад вачыма ў мяне заўсёды дзеці, шчаслівыя дзеці, бо яны не зведалі жахаў вайны. Гэта вельмі балюча - дакранацца да ранаў памяці, але я расказваю моладзі пра вайну, пра сваё дзяцінства, пра тых, каго асіраціла вайна, адабрала самае дарагое - здароўе...

А потым вучні чыталі ўрыўкі з паэмы Петруся Броўкі "Голас сэрца", "Рэквіем" Р.Раждзественскага.

- Мы за мір! Мы хочам міру! Мы - за яснае сонейка на чыстым небе! Мы - за шчаслівы смех дзяцей! Наша зямля - такая вялікая для таго, каб жыць на ёй у міры і дружбе.

Гэтыя словы сонечным святлом засвяціліся на дошцы.

Празвінеў званок. Але ніхто не спяшаўся пайсці з класа. І госці, і вучні яшчэ доўга гутарылі за кубкам гарбаты і кавы.

Такія сустрэчы пакідаюць глыбокі след у памяці, вучаць цаніць і берагчы мір на зямлі, паважаць тых, хто ў грозны час бараніў нашу зямлю ад захопнікаў.

**Антаніна ГАРЧАКОВА,**
**класны кіраўнік**
**і настаўніца сярэдняй школы №3 Вілейкі,**
**непаўналетні вязень канцлагера "Пяты полк".**



Вопыт

# Класныя выхавальнікі і вучні: побач або разам?

Грамадзянскасць і патрыятызм ва ўсе часы з'яўляліся вышэйшай каштоўнасцю ў славян. Л.М.Талстой пісаў: "Патрыятызм – гэта... усведамленне сваёй неад'емнасці ад Радзімы і неад'емнае перажыванне разам з ёй яе шчаслівых і няшчасных дзён". Архіўныя дакументы XIX стагоддзя сведчаць, што ў дарэвалюцыйнай гімназіі класныя выхавальнікі і педагогі аддавалі вялікую ўвагу фарміраванню ў вучняў грамадзянскасці і патрыятызму. Настаўнікі і выхавальнікі гімназіі прысягалі Яго Імператарскай Вялікасці ў вернай службе на карысць дзяржавы. У "Адозве" начальніка гімназіі да вучняў былі такія словы: "Ахвяруйце, выхаванцы, ад вашага чыстага сэрца, колькі хто з вас можа на хворых і параненых воінаў... Няма большай любові, чым тая, калі чалавек свядома і разумна ахвяруе сваім жыццём за сяброў, сваіх суайчыннікаў". Пры гэтым звярталася ўвага на тое, каб "не выкарыстоўваць прымусовых мер, а прадастаўляць права ўдзелу ў гэтай рабоце самім вучням".

Савецкая школа, выхоўваючы "вернасць ідэалам Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і Камуністычнай партыі, імкнулася да таго, каб ужо ў гады дзяцінства маленькі грамадзянін усвядоміў розумам і спасціг сэрцам, якая бездань аддзяляе свет сацыялізму ад свету капіталізму".

Сёння, на пачатку XXI стагоддзя, мы сутыкнуліся з парадоксам суадносін гуманізму з яго ідэаламі дабра і чалавекалюбства з рынкам і яго халоднай няўмольнасцю і ўладай грошай. Школа адчувае цяжкі ўплыў рыначных адносін. Побач будуць настаўнікі і вучні або разам? Ад гэтага залежыць многае ў жыцці і дзяцей, і ўсяго грамадства ўвогуле. Калі побач – значыць чалавечнасць непазбежна саступіць у канкурэнцыі з жорсткім разлікам; калі разам, дапаўняючы адзін аднаго – ёсць надзея, што ў будучым цывілізаваным грамадстве з'явяцца і дзелавітыя летуценнікі, і высакародныя прагматыкі, і патрыёты сваёй дзяржавы, гэта значыць добрыя людзі, якія ствараюць сябе і сваё асяроддзе. Імі, вядома, стануць маладыя – сённяшнія школьнікі і студэнты, юныя навукоўцы-даследчыкі і прадпрымальнікі. Трэба толькі, каб яны добра ўсвядомілі і былі гатовыя ўзяць на сябе гэтую высакародную місію.

Праблема грамадзянскага выхавання, сацыяльнай і псіхалагічнай інтэграцыі моладзі ў грамадства – вострая і актуальная ва ўсе часы. Каб падлетак або юнак любіў сваю Радзіму, гэтая любоў павінна быць узаемнай. Каб ён актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці (як мінімум галасаваў на выбарах), ён павінен адчуваць зацікаўленасць грамадства і дзяржавы ў яго лёсе, увагу да яго меркаванняў, патрэб і інтарэсаў.

Гэтая праблема – нацыянальная і агульначалавечая. Малады чалавек павінен ідэнтыфікаваць сябе адначасова траякім чынам: як член таго або іншага этнасу, носьбіт нацыянальнай культуры; як грамадзянін шматнацыянальнай краіны – Беларусі; проста як чалавек, еўрапеец, грамадзянін свету.

Як перадаць маладому пакаленню мудрасць жыцця? Як у сучасных умовах выхаваць высокамаральнага чалавека? В.А.Сухамлінскі адзначаў, што побач з нашымі дзецьмі павінна знаходзіцца яркая асоба.

Звернемся да вопыту работы класных выхавальнікаў эканамічнай гімназіі №5 Мінска. Фарміраванне высокай ідэйнасці і патрыятызму гімназістаў пачынаецца з веры ў маральныя святыні нашай Бацькаўшчыны, народа. "Наша маленькая Радзіма" – так называюць вучні гімназію і ўсіх тых, з кім яны кожны дзень сустракаюцца, дзеляцца радасцямі і нягодамі – гэта класныя выхавальнікі, настаўнікі, адміністрацыя, псіхолагі, работнікі бібліятэкі і сталоўкі, тэхнічны персанал, а таксама дзяжурная вахты бабуля Зіна. У сценах гімназіі дзеці атрымліваюць свае самыя галоўныя жыццёвыя ўрокі. Мудрасць і майстэрства класных выхавальнікаў, мастацтва і тэхналогіі выхавання павінны быць накіраваны перш за ўсё на тое, каб дзеці, падлеткі, юнакі адчувалі шчасце ад вучобы і працы, каб дажылі гэтым, былі ўдзячнымі настаўнікам за атрыманыя веды. Традыцыйным стала правядзенне працоўнай вахты "Мой дом – я гаспадар у ім", дэвізам якой з'яўляюцца словы: "Праца – аснова маральнасці". Свята гімназіі "Мая гімназія – мой гонар" суправаджаецца конкурсам вершаў, тэлеграм, радыёперадач, віншаванняў у адрас установы, настаўнікаў. Усё гэта павышае аўтарытэт выкладчыкаў, прэстыж гімназіі.

> Каб падлетак або юнак любіў сваю Радзіму, гэтая любоў павінна быць узаемнай. Каб ён актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці, ён павінен адчуваць зацікаўленасць грамадства і дзяржавы ў яго лёсе, увагу да яго меркаванняў, патрэб і інтарэсаў.

Выключна важнай з'яўляецца такая форма дзейнасці класных выхавальнікаў як навукова-даследчая работа вучняў. Гэта калектыўна-творчая дзейнасць па вывучэнню гісторыі нашай дзяржавы, яе культуры, работа ў фондах музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, краязнаўчая дзейнасць і інш. Гэта павышае інтэлектуальны патэнцыял гімназістаў, развівае іх творчыя здольнасці, прыводзіць да ўсведамлення таго, што яны – заўтрашнія дарослыя людзі.

Інтэграцыя асобы ў нацыянальную і сусветную культуру з'яўляецца галоўнай задачай комплекснамэтавай выхаваўчай праграмы "Свет ува мне і вакол мяне". Падпраграма "Я і Радзіма" накіравана на выхаванне грамадзянска-палітычнай культуры, фарміраванне нацыянальных і агульначалавечых якасцей асобы, самасвядомасці з мэтай сацыяльнага і сацыяльна-псіхалагічнага ўваходжання моладзі ў сучаснае грамадства. У ходзе рэалізацыі праграмы класныя выхавальнікі выкарыстоўваюць самыя розныя формы і тэхналогіі работы: маральна-прафарыентацыйныя, ролевыя і дзелавыя гульні, "сакратаўскія" гутаркі, "адкрыты мікрафон", праблемныя сітуацыі, трэнінгі і інш.

Нельга не пагадзіцца з А.С.Газманам, што ў дзіцячых арганізацыях савецкага часу (піянеры, акцябраты) было шмат карыснага. "Адмаўляючыся ад станоўчага ў нашым вопыце, мы выплюхваем разам з застойнай ідэалагічнай вадой і дзіця – гуманныя, дэмакратычныя спосабы работы з дзецьмі, якімі валодаем, лепшыя ўзоры якіх і для сусветнай педагогікі маюць каштоўнасць".

Характэрна, што з развіццём палітычнай сістэмы ў краіне школьнікі ўсё часцей выказваюць жаданне ўдзельнічаць у выбарах усіх узроўняў, патрабуючы ўвесці выбарчае права з 16 гадоў. Яны таксама робяць выбар і хочуць, каб іх пачулі.

Цяпер вялікая колькасць падлеткаў удзельнічае ў выбарах, так бы мовіць, мясцовага маштабу, напрыклад, у выбарах у савет па школьнаму самакіраванню. Выхавальнікі і адміністрацыя гімназіі не перашкаджаюць вучням самім рабіць свой выбар, прадастаўляюць ім права вырашаць і адказваць за яго наступствы, узбагачаць уласны вопыт выбараў. Вучнёўскае самакіраванне ў гімназіі – стабільнае і жыццяздольнае.

Назавём некалькі сфер грамадскай дзейнасці падлеткаў і моладзі ў рамках арганізацый.

Сацыяльная работа. Аказанне дапамогі старым, інвалідам і хворым у Доме састарэлых у Дражні. Можна гаварыць пра выхаванне міласэрнасці, дабрачыннасці. Прыемна бачыць, як вучнёўскае самакіраванне вядзе дабрачынную работу сумесна з "Сястрыцтвам св.Ганны і Марыі", праяўляючы высокую маральную адказнасць перад тымі, хто пакутуе. Аперацыя "Падарунак далёкаму сябру" – дабрачынная акцыя для анкахворых дзяцей у Бараўлянах. Яшчэ адна сфера – экалогія, ахова навакольнага асяроддзя. Экалагічная сцяжына "Сляпянка" – клопат усіх вучняў гімназіі. Краязнаўчая дзейнасць прадугледжвае вывучэнне рэгіянальнай гісторыі і культуры.

Вышэйшай ступенню працэсу выхавання маральнай культуры школьніка з'яўляецца самавыхаванне. У гімназіі ў практыку выхаваўчай работы ўведзены "Дзённік самапазнання", які дазваляе арганізаваць працэс фарміравання маральнай самасвядомасці.

Сумесная дзейнасць класных выхавальнікаў і вучняў гімназіі накіравана на пошук сучасных маральных ідэалаў і замацаванне іх у свядомасці школьнікаў праз выхаванне міласэрнасці, грамадзянскасці і патрыятызму, праз працоўнае выхаванне, праз выхаванне на аснове нацыянальных каштоўнасцей, праз самакіраванне і самавыхаванне, праз сучасныя формы выхаваўчай работы.

**Людміла ВАСІЛЕВІЧ,**
**намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце эканамічнай гімназіі №5 Мінска.**

# Музей і алея памяці аб'ядналі жывых сведкаў вайны

***Ідэя стварыць у сярэдняй школе №11 Жлобіна музей непаўналетніх вязняў нямецка-фашысцкіх канцлагераў належыць колішняму намесніку дырэктара па выхаваўчай рабоце, а цяпер старшыні прафсаюзнага камітэта работнікаў адукацыі і навукі Тамары Міхайлаўне Маліцкай. А пачыналася гэтая карпатлівая праца з простага, амаль бытавога выпадку: Саюз былых непаўлетніх вязняў звярнуўся да кіраўніцтва школы з просьбай аб прадастаўленні памяшкання для правядзення сваіх пасяджэнняў.***

Неўзабаве рукамі гэтых людзей, чыё дзяцінства прайшло ў голадзе і холадзе за калючым дротам, непасрэдна ў школьным двары была пасаджана алея. Першыя экспанаты ў выглядзе дакументаў музею падаравала старшыня грамадскага аб'яднання непаўналетніх вязняў Яўгенія Валянцінаўна Краўчук.

Сёння ў сярэдняй школе №11 плённа і творча працуе музей з назвай - "Дзеці і вайна". Створаны ён як музей непаўналетніх вязняў канцэнтрацыйнага лагера "Азарычы", размешчанага ў гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі сучаснага Калінкавіцкага раёна. Сярод першых экспанатаў, якія паявіліся ў музеі, была дыярама С.В.Лабніна "Азарычы". На ёй мы бачым, як на адкрытай забалочанай мясцовасці, абнесенай калючым дротам і якую з чатырох бакоў ахоўваюць вартавыя на вышках, літаральна ў пекле знаходзіліся жанчыны і дзеці. Фашысты наўмысна стварылі невыносныя ўмовы, трымаючы людзей круглыя суткі пад адкрытым небам у любую пару года. Пра тое, колькі вязняў знаходзілася тут, можна меркаваць па колькасці тых, хто ўцалеў пры вызваленні лагера Чырвонай Арміяй - 33480 чалавек, з якіх 15960 дзяцей.

Уражвае і карціна самадзейнага мастака з вёскі Папаратнае Жлобінскага раёна Сяргея Рыгоравіча Кузняцова. Карціна напісана ім паводле расказаў бацькі, былога вязня канцлагера "Азарычы". У музеі сабраны таксама ўспаміны людзей, якія засталіся ў жывых пасля гэтай "фабрыкі смерці". Такіх дакументаў на сённяшні дзень налічваецца дзевятнаццаць. Асобны стэнд прысвечаны жлабінчаніну, педагогу Генадзю Герасімавічу Пархоменку, які быў паэтам і мастаком. Сярод экспанатаў, падараваных гэтым непаўналетнім вязнем "Азарычаў" - кніга, выдадзеная ў Жлобіне пад назвай "Дзяцінства, абпаленае вайной", паэма "Як гэта было", напісаная ў 1999 годзе, своеасаблівая гравюра, якая нагадвае пра жудасную трагедыю дзіцяці ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Нельга не звярнуць увагі і на асабістыя рэчы былых вязняў канцлагера "Азарычы", якія таксама сталі нямымі сведкамі зверскіх здзекаў фашысцкіх акупантаў над мірным насельніцтвам нашай Радзімы. Сярод іх - ручнік і хустка, падараваныя Валянцінай Данілаўнай Сталяровай, пакрывала, прынесенае ў музей таксама вязнем азарыцкага канцлагера, жонкай ганаровага грамадзяніна Жлобіна Мікалая Іванавіча Панчанкі Феняй Андрэеўнай.

Аднак экспазіцыя музея прысвечана не толькі канцэнтрацыйнаму лагеру "Азарычы". Ёсць тут і ўспаміны семнаццаці непаўналетніх вязняў, якія знаходзіліся ў лагерах на тэрыторыі Германіі. Толькі сёлета музей папоўніўся расказамі пра невыноснае жыццё ў нямецкіх канцлагерах Марыі Сцяпанаўны Навуменка і Віктара Іосіфавіча Макевіча са Жлобіна, Алены Міхайлаўны Дзядкоўскай з вёскі Верхняя Олба, Надзеі Купрэеўны Вашкоўскай з Дворышчаў, Лукер'і Аўрамаўны Марчанка з Чырвонага Берага.

Ёсць у сярэдняй школе №11 і матэрыялы пра юных герояў вайны Гомельскай вобласці. Сярод іх і Алег Васільевіч Казлоў, які нядаўна падараваў музею і сваю фатаграфію ў сталым узросце, падпольшчыкі Антон Губараў і Павел Жлоба, юны партызан з вёскі Сцепы, Герой Савецкага Саюза Сяргей Аніічанка.

Новая тэма, якой музей пачаў займацца ў гэтым годзе, - дзеці вайны, дзеці, якія засталіся сіротамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Ужо сабраны ўспаміны Івана Раманавіча Балянкова з вёскі Пірэвічы і жлабінчанкі Валянціны Канстанцінаўны Расінавай. Астатнія дасланыя матэрыялы кіраўнік музея Елізавета Мікалаеўна Каўпаева разам са сваімі памочнікамі, вучнямі 9 "Б" і 11 "Б" класаў, працягваюць апрацоўваць.

Школьнікі не толькі праводзяць экскурсіі, але займаюцца і навукова-даследчай работай. Заслугоўваюць увагі рэфераты Кацярыны Рыжкевіч і Марыі Чаркасавай "Лёс дзяцей-яўрэяў у гады Вялікай Айчыннай вайны", Юліі Яцук і Дар'і Захарэнка "Нашы землякі на работах у Германіі", Вольгі Багамазавай і Вольгі Антановіч "Акупацыйны рэжым".

Цяпер музей рыхтуецца да святкавання 11 красавіка - Міжнароднага дня вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў. І зноў тут збяруцца непаўналетнія вязні, каб успомніць трагічныя падзеі тых дзён. У школе пройдуць урокі памяці, канферэнцыі. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці для гасцей, якіх будзе каля ста чалавек, дадуць вялікі канцэрт. Пройдуць госці і па алеі вязняў фашысцкіх канцлагераў, каб аддаць даніну памяці і ўскласці жывыя кветкі да помніка.

**Аляксандр ІВАНЬКОЎ,**
**метадыст Жлобінскага раённага аддзела адукацыі.**

# Заручаныя з роднай вёскай

***Справядліва лічыцца, што выхаванне ў дзяцей патрыятызму пачынаецца з любові да родных мясцін, да сваёй малой радзімы. Таму ў Бердаўскай сярэдняй школе вось ужо колькі гадоў ажыццяўляецца праграма "Спадчына".***

На яе аснове ў вучняў выхоўваецца цікавасць да вывучэння гісторыі і культуры нашага краю. Мэтанакіраваная размова аб гэтым пасля ўрокаў мае працяг у гуртках, у час экскурсій і турпаходаў, гутарках і лекцыях. На пачатку навучальнага года па аднаму з напрамкаў згаданай праграмы класам, пачынаючы з чацвёртага, даецца творчае заданне. Пад канец года класныя калектывы трымаюць справаздачу. Расказваюць аб тым, як вучні шукалі карані свайго радаводу, паходжання вёсак, запісвалі ўспаміны знакамітых людзей, збіралі сямейныя рэліквіі. Старшакласнікі сістэматызуюць агульныя набыткі, адбіраючы іх для школьнага музея ці тэматычных выстаў.

На аснове гэтых матэрыялаў рыхтуюцца выставы "Гісторыя маёй вёскі", да Дня сям'і і каляндарных свят, вусныя часопісы "Мой родны кут" і інш. Вучні, што вызначыліся ў пошукавай рабоце, заахвочваюцца.

Асабліва папулярныя ў дзяцей заняткі ў гуртку юных этнографаў і археолагаў. І звязаныя з гэтым вандроўкі. Падчас летніх канікулаў група вучняў пад кіраўніцтвам дырэктара школы Анатоля Крупы наведала Дакудаўскі і Бердаўскі сельсаветы Лідскага ды Ліпнішкаўскі Іўеўскага раёнаў. Толькі юныя даследчыкі сістэматызавалі сабраныя матэрыялы і падагульнілі зробленае, як зноў звяртаюцца да Анатоля Леанідавіча: "Калі адправімся ў чарговую вандроўку?" І падрыхтоўка да новай экспедыцыі пачынаецца.

Колькі слоў аб выніках папярэдніх падарожжаў. Сабраны дадатковыя экспанаты для музея, запісаны шэраг легендаў і абрадаў, сфатаграфаваны вясковыя пабудовы, характэрныя для першай паловы XV стагоддзя. У недалёкіх Лепнішчах вучні пазнаёміліся з планіроўкай гэтага мястэчка, паглыбілі свае веды аб ролі мястэчак у сярэдневеччы і ў навейшай гісторыі Беларусі. А ў вёсцы Сураж былі ўражаныя месцам бітвы паўстанцаў Т.Касцюшкі з царскімі карнікамі ў 1794 годзе. Зараз там стаіць невялікая капліца. Юныя археолагі пабывалі ля стаянкі першабытнага чалавека паблізу вёскі Дакудава і на курганным магільніку каля Касоўшчыны. Работы вяліся з удзелам навукоўцаў з Мінска. Вучнямі складзена карта археалагічных помнікаў Лідчыны.

У якасці заахвочвання творчых поспехаў краязнаўцаў дырэкцыя і бацькоўскі камітэт выкарыстоўваюць экскурсіі. Вось і нядаўна група вучняў наведала Гродна і азнаёмілася з выдатнымі мясцінамі горада. Наперадзе – паездка ў легендарны Брэст. Мінулым летам уразіла школьнікаў экскурсія ў старажытны Полацк. Сёлета зноў плануецца наведанне былой сталіцы колішняга княства. Запланаваны паездкі і ў іншыя гарады.

"Героі жывуць побач з намі" – пад такім дэвізам працуюць старшакласнікі. Яны і выпускнікі школы сабралі пад кіраўніцтвам настаўнікаў багаты матэрыял аб тутэйшых ветэранах Вялікай Айчыннай вайны, нямецка-польскай вайны 1939 года. А пра вызваліцеляў Лідчыны, пахаваных у Бердаўцы, нямала цікавых звестак адшукалі юныя следапыты, чыю дзейнасць шмат гадоў накіроўваў выкладчык геаграфіі Міхаіл Іосіфавіч Булай. Агульнымі стараннямі папаўняецца музей экспанатамі і дакументамі аб лепшых працаўніках тутэйшага калгаса. І побач з фотаздымкамі былых салдат з Бердаўкі, Сцеркава, Кір'янаўцаў у экспазіцыі можна ўбачыць герояў мірнай працы, а сярод іх – фотапартрэт шматгадовага старшыні калгаснага праўлення Аляксандра Каранюка. Гэта пры ім гаспадарка дабілася найбольшага росквіту, нездарма яе кіраўнік выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі.

Школьны краязнаўчы музей мае шэсць пакояў, у якіх размешчана каля тысячы экспанатаў. Сярод іх, акрамя прадметаў гісторыі, археалогіі і этнаграфіі, прадстаўлена флора і фауна наваколля. Зразумела, тут мэтанакіравана і цікава праводзяцца ўрокі, пазакласныя выхаваўчыя мерапрыемствы, з ліку старшакласнікаў выхоўваюцца грамадскія экскурсаводы.

Паходы па месцах баявой славы, этнаграфічныя і археалагічныя вандроўкі, фальклорныя гурткі і гурткі народных промыслаў, лялечны тэатр "Батлейка", сустрэчы з пісьменнікамі, асветніцкая дзейнасць сярод вяскоўцаў... Такі не поўны пералік выхаваўчай работы настаўнікаў і вучняў Бердаўскай сярэдняй школы. І невыпадкова яе калектыў пачаў новы век у ліку пераможцаў у рэспубліканскім спаборніцтве на лепшую сельскую школу па нацыянальна-культурнаму адраджэнню. А нядаўна школа заняла першае месца ў абласным конкурсе відэаслайдфільмаў пра гарады і мястэчкі Гродзеншчыны.

Так у Бердаўцы разам з навучаннем мэтанакіравана знаёмяць вучняў з гісторыяй, культурай і традыцыямі народа і ўмела выхоўваюць свядомых грамадзян-патрыётаў.

**Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ.**

Лідскі раён.

# Паэтычны каляндар
# Красавік

**7 красавіка 2002 г.** – 155 гадоў з дня нараджэння Йенса Петэра Якабсэна (1847–1865), дацкага пісьменніка, паэта.

**10 красавіка 2002 г**. – 65 гадоў з дня нараджэння Бэлы Ахмадулінай (1937), рускай паэтэсы.

**18 красавіка 2002 г.** – 160 гадоў з дня нараджэння Антэры дэ Кентала (1842–1891), партугальскага паэта і крытыка.

**23 красавіка 2002 г.** – 120 гадоў з дня смерці Дантэ Габрыэля Расеці (1828–1882), англійскага мастака, паэта, перакладчыка.

**24 красавіка 2002 г.** – 150 гадоў з дня смерці Васілія Жукоўскага (1783–1852), рускага паэта.

## Йенс Петэр ЯКАБСЭН

* * *

Няхай не позніцца вясна
І флейты птушак, нечакана,
Устаўшы рана, давідна,
На ўсёй зямлі замілавана
Настроіць з першых дзён яна!
Хай зеляніны россып яркі
Атуліць і сады, і паркі,
А ў небе забялеюць хмаркі.
Хай на палянах і лугах
Струменяцца на сонцы кветкі,
А там, дзе пробліск промняў рэдкі,
Свой пах затояць у лясах.
Што мне да іх? Душа жывая,
І радасць у яе не тая,
Душа сваёй вясны чакае.
Дык дзе ж яна?

## Бэла АХМАДУЛІНА

* * *

Час на мяне дарма марнуючы,
Пытанняў мне не задавай.
Вачыма добрымі, сумуючы,
Маёй рукі не задзявай.

Як ручаінка расплываецца,
Лепш не праходзь услед за мной.
Нічога зноў не атрымаецца
З такой сустрэчы ў нас з табой.

Не ад пакут дзявочай годнасці
Нясу я горда галаву.
Я недаступнай не ад гордасці –
Ад гора скрушнага слыву.

## Антэра дэ КЕНТАЛ

### Гімн розуму

Пачуй мальбу, о Розум, плач малення, –
Ты Правасуддзя і Любові брат
І чуеш сэрца кожнага набат,
Душы, што прагне волі і збавення.

Калі ты ёсць – рассеецца ў імгненне
Туманнасць зор – пачнецца зарапад.
Калі ты ёсць, як злак, з жыццём у лад
І гераізм узыдзе ў дні сумнення.

Калі ты ёсць – расчынены вароты,
Дух нацыі праб'ецца праз грымоты,
І той, хто бачыць будучнасць у снах,

Калі ты ёсць, гатовы да пакуты,
Твой кожны сын, няволяю не скуты,
Тваё імя напіша на шчытах.

## Дантэ Габрыэль РАСЕЦІ

Ты, лежачы ў траве, здаешся нерухомай.
Напаўпразрыстасць пальцаў на руках,
Бяздоннасць сіняй вышыні ў вачах
І ў ёй дымкамі з неадольнай стомай
Вандруюць хмары. Ні ракі, ні дома.
Там-сям кусты на ўзгорках і палях...
Час не цурчыць, як плынь у берагах,
Хоць ён і адчуваецца, вядома.

А страказа між люцікаў трымціць
На нітцы, што ў блакіце зіхаціць,
Дзе скупа адпускаюцца імгненні.
І, зліўшы вусны, п'ем мы слодыч мар.
Міг удваіх – спрадвечны Божы дар,
Як дзелім мы жаданне і натхненне.

## Васілій ЖУКОЎСКІ

### Лясны цар

Хто скача, імчыцца ў халоднай імгле?
Запознены коннік з малым у сядле.
Да бацькі, прамерзшы, прыпаў ён і сціх.
Той грэе малога ў абдымках сваіх.

"Чаго да мяне так хінешся, сынок?" –
"Я ўбачыў ляснога цара незнарок.
Ён быў у кароне, з густой барадой". –
"Не, гэта бялее туман над вадой".

Дзіцё, азірніся – і будзеш са мной.
Вясёлага шмат у старонцы маёй.
Там кветкі з бурштыну, жамчужны струмень...
Палац – залаты мой і ззяе ўвесь дзень". –

"Мой родны, ты чуеш ляснога цара? –
Ён кажа – Там золата, перлаў гара". –
"О не, мой маленькі, спалохаўся ты:
Там вецер спрасоння варушыць лісты". –

"Давай да мяне, што ж ты гэтак заціх?
Ты ўбачыш дачок – прыгажуняў маіх,
Што будуць пры поўні гуляць і скакаць,
І песні спяваць, і цябе калыхаць". –

"Мой родны, вунь дочкі ляснога цара
Здалёк мяне клічуць і кажуць: пара!" –
"Не бойся, мяне не хапай за руку:
То вербы сівыя стаяць убаку". –

"Захоплены я прыгажосцю тваёй,
І воляй, няволяй, а будзеш ты мой". –
"Мой родны, дык цар нас дагоніць вось-вось,
І дыхаць мне цяжка, і страшна чагось".

Спалоханы коннік не скача – ляціць.
Маленькі ў спалоху, маленькі крычыць.
Калі ж ён каня, прыскакаўшы, спыніў,
Убачыў, што сын яго мёртвы ўжо быў.

**Пераклаў Яўген МІКЛАШЭЎСКІ**



Да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа

# "І сёння нашы геніі цікавыя і актуальныя..."

***Да 120-гадовых юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа застаецца ўжо крыху менш - адпаведна - за тры і сем месяцаў... 2002 год афіцыйна аб'яўлены юбілейным, і кожны з нас сёлета міжволі стане ўдзельнікам гэтага дзяржаўнага свята. Згадваюцца святкаванні трохгадовай даўнасці юбілею Пушкіна ў Расіі, іх размах, штодзённая застаўка на ГРТ "Да дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна засталося гэтулькі вось дзён"... У нас, беларусаў, свае геніі і свой "адлік". Для кагосьці ён, несумненна, даўно пачаўся - у сэрцы, а для кагосьці яшчэ пачнецца - магчыма, непасрэдна ў дні нараджэння класікаў, магчыма, на самым першым уроку новага навучальнага года 1 верасня, які, як вядома, мусіць быць прысвечаным творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. Ва ўсякім разе хочацца думаць, што настаўніцкая грамадскасць краіны ўспрыме вялікі юбілей з асаблівымі пачуццямі і адказнасцю, і ў гэтым не апошнім дарадцам нашым настаўнікам абяцае стаць "Настаўніцкая газета".***

***Сёння ж, адкрываючы рубрыку "Да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа", мы прапануем нашым чытачам інтэрв'ю намесніка Міністра культуры Валерыя Гедройца адносна плана дзяржаўных мерапрыемстваў, прысвечаных юбілеям.***



**- Валерый Карлавіч, мінулі вось ужо тры месяцы "купалаўска-коласаўскага" года... На якой стадыі знаходзіцца рэалізацыя плана дзяржаўных юбілейных мерапрыемстваў?**

– Гэтая праца пачалася даўно – літаральна з першага пасяджэння Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па правядзенню ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных юбілею народных песняроў (узначаліў Камітэт намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімір Несцеравіч Дражын).

Ужо адбыліся ўрачыстыя адкрыцці юбілейнага года ў абодвух – Купалаўскім і Коласаўскім – музеях. Цяпер у Літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа актыўна вядзецца работа над стварэннем новай экспазіцыі, а ў Літаратурным музеі Янкі Купалы – работа па абнаўленню існуючай экспазіцыі. Дарэчы, менавіта на гэтыя мэты з Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва выдзелены адпаведна 70 і 20 мільёнаў рублёў.

Як адну з самых значных юбілейных падзей можна вылучыць факт новага, унікальнага выдання славутай "энцыклапедыі сялянскага жыцця", як яе называюць, паэмы Якуба Коласа "Новая зямля". Кніжка – на трох мовах: рускай, беларускай і польскай. Багата праілюстравана народным мастаком Беларусі Васілём Шаранговічам. Была ўжо праведзена прэзентацыя гэтага выдання ў Грамадскім прэс-цэнтры, а нядаўна, 28 сакавіка, у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адкрылася выстаўка гэтых арыгінальных твораў Васіля Шаранговіча – усяго 91.

Дарэчы, з'яўленне падарункавай "Новай зямлі" – не адзіная кнігавыдавецкая навінка, прымеркаваная да юбілею. Выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў серыі "Школьная бібліятэка" рыхтуе да друку раман Якуба Коласа "На ростанях", завяршае выпуск 9-томнага збору твораў Янкі Купалы, плануе грандыёзны праект – выпуск збору твораў Якуба Коласа ў 15–18 тамах. Выдавецтва "Юнацтва" мае намер цалкам прысвяціць песнярам чарговы штогоднік "Бацькаўшчына". У "Беларускай навуцы" неўзабаве пабачыць свет 4-ы том "Слоўніка мовы Купалы". Плануецца выпуск падрыхтаваных Інстытутам літаратуры НАН Беларусі даследаванняў літаратурнай спадчыны пісьменнікаў. Альбомы-буклеты па купалаўскіх і коласаўскіх мясцінах выйдуць у выдавецтве "Універсітэцкае".

**- Якія з найбольш значных юбілейных мерапрыемстваў вы маглі б адзначыць апроч ужо згаданых?**

– У першую чаргу я назваў бы традыцыйныя святы паэзіі, якія праводзяцца на радзіме Янкі Купалы ў Вязынцы Маладзечанскага раёна і на радзіме Якуба Коласа на Стаўбцоўшчыне. У сувязі з юбілеем падзеі гэтыя, натуральна, набудуць больш шырокі размах, чым у звычайныя гады, і стануць сапраўднымі святамі для прыхільнікаў творчасці песняроў. Не менш грандыёзнымі абяцаюць стаць і ўрачыстыя вечары, прымеркаваныя да дзён нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Значнай падзеяй у культурным жыцці краіны стане Рэспубліканская мастацкая выстаўка "З думай пра Беларусь" – тут будуць прадстаўлены як новыя творы беларускіх мастакоў, прысвечаныя торчасці юбіляраў, так і ўсё найлепшае, створанае ў папярэднія гады. Апроч таго, кожны з літаратурных музеяў падрыхтуе са сваіх фондаў уласныя выстаўкі аб жыцці і творчасці пісьменнікаў, якія па чарзе будуць паказвацца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

Думаю, увагу аматараў творчасці класікаў прыцягне купалаўска-коласаўская старонка ў Інтэрнеце. Не менш парадуе іх і доўгачаканая пастаноўка "Тутэйшых", узноўленая ў новых дэкарацыях у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Купалы.

Трэба адзначыць, што юбілеі заўсёды актывізуюць цікавасць не толькі чытачоў, але і прафесійных дзеячаў культуры і мастацтва. Таму ў гэты год мы чакаем, што з'явяцца новыя арыгінальныя мастацкія творы, новыя песні, новыя фільмы. Менавіта таму плануецца правесці рэспубліканскія конкурсы кампазітараў і літаратараў – адпаведна на лепшае вакальнае сачыненне па матывах твораў Купалы і Коласа і лепшы літаратурны твор, прысвечаны юбілеям. Што тычыцца фільмаў, то яны будуць шырока дэманстравацца і па тэлебачанні, і ў кінатэатрах. У прыватнасці, кампанія "Белвідэацэнтр" ужо займаецца стварэннем відэастужкі пра музеі Янкі Купалы і Якуба Коласа і іх філіялы. Плануецца таксама выпуск кампакт-дыска з песнямі і музычнымі творамі на вершы песняроў.

Не застануцца ўбаку ў юбілейным годзе і мерапрыемствы па добраўпарадкаванні мясцін, звязаных са славутымі імёнамі: магіл Янкі Купалы і Якуба Коласа на Вайсковых могілках у Мінску, помніка Янку Купалу і пляцоўкі вакол яго ў сталіцы, могілак у вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна, тэрыторыі вакол мемарыяльных сядзіб Акінчыцы і Альбуць у Стаўбцоўскім раёне, пад'язных дарог да мемарыяльных сядзіб Альбуць і Ласток Стаўбцоўскага раёна, Вязынка і Яхімоўшчына – Маладзечанскага, Акопы – Лагойскага, Ляўкі – Аршанскага і інш.

**- Наколькі шырокі, скажам так, той агульны спектр грамадскіх і дзяржаўных інстытутаў, задзейнічаных у юбілейных мерапрыемствах? І, дарэчы, якая роля тут адводзіцца адукацыйным установам краіны?**

– Што тычыцца другога пытання, то пры распрацоўцы плана юбілейных мерарыемстваў мы звярталіся ў Міністэрства адукацыі, выказвалі свае прапановы, улічвалі пажаданні адукацыйнага ведамства. У выніку ў плане ёсць некалькі пунктаў, якія непасрэдна звязаны са школай. Плануецца, у прыватнасці, што новы навучальны год у нашых школах пачнецца спецыяльным урокам, прысвечаным Купалу і Коласу. Апроч таго, у навучальных установах рэспублікі мяркуецца правесці паэтычныя чытанні, вечары паэзіі, конкурсы на лепшае сачыненне, малюнак, выкананне твораў юбіляраў.

Увогуле ж, план юбілейных мерапрыемстваў улічвае пажаданні больш чым 20 розных міністэрстваў, ведамстваў і арганізацый, пачынаючы ад Саюза пісьменнікаў і заканчваючы Міністэрствам замежных спраў. Дый, бадай, усе традыцыйныя мерапрыемствы, што праходзяць па лініі Міністэрства культуры, так ці інакш будуць адлюстроўваць юбілейныя падзеі. Гэта датычыцца і 4-га усебеларускага



фестывалю нацыянальных культур, што ладзіцца ў Гродна (там будуць гучаць вершы паэтаў розных нацыянальнасцей, прысвечаныя песнярам), і Свята беларускага пісьменства, якое на гэты раз адбудзецца ў старажытным Міры, і інш.

**- Ці можна спадзявацца, што юбілеі беларускіх класікаў набудуць шырокі міжнародны розгалас?**

– Міжнародная дзейнасць пазначана асобным пунктам у плане дзяржаўных мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю.

Па-першае, разам з Міністэрствам замежных спраў мы плануем падрыхтаваць і распаўсюдзіць праз пасольствы перасоўныя фотавыстаўкі аб жыцці і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа за межамі Беларусі, перш-наперш для беларускай дыяспары ў памежных з Беларуссю краінах. Такія заяўкі ад замежных беларусаў ужо ёсць. Адзінае, што стварае праблемы, – катастрафічны недахоп сродкаў, нават на тое ж тыражыраванне. Але ж выйсце, трэба думаць, знойдзецца, магчыма, дзякуючы спонсарам.

Па-другое, рыхтуюцца помнікі юбілярам, якія мяркуецца ўстанавіць у двух найбуйнейшых расійскіх гарадах: Янку Купалу – у Маскве, Якубу Коласу – у Санкт-Пецярбургу. Адносна першага ўжо вызначаны аўтарскі калектыў. Гэта Юрый Грыгор'еў (былы галоўны архітэктар Мінска) і скульптар Валяр'ян Янушкевіч – чалавек вядомы і таленавіты, аўтар помнікаў Міцкевічу ў Навагрудку, Скарыну ў Лідзе, Агінскаму ў Маладзечна. Напачатку планавалася, што помнік будзе ўзведзены на Кутузаўскім праспекце. Па апошніх звестках, гэтае рашэнне перагледзелі, і цяпер ён будзе ўстаноўлены на Міўскай плошчы, недалёка ад Беларускага вакзала, насупраць Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта – былога Маскоўскага гарадскога народнага ўніверсітэта імя Шаняўскага, дзе ў свой час вучыўся паэт. Сродкі на помнік збіраюць маскоўскія беларусы, пэўную частку сродкаў прадугледжвае саюзны бюджэт.

Што датычыцца помніка Якубу Коласу ў Санкт-Пецярбургу, то пакуль гэты праект знаходзіцца на стадыі перамоў.

**- Валерый Карлавіч, калі гаварыць нагул, наколькі актыўна адгукнулася ўжо на розныя міністэрскія прапановы і захады культурніцкая грамадскасць краіны?**

– Дзякуй Богу, на юбілей ужо адгукнуліся многія творцы. Праанансую толькі адну такую прыемную навіну: Дзяржаўны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга падрыхтаваў спецыяльную канцэртную праграму. Мяркуецца, што прэзентацыя яе адбудзецца менавіта ў дзень святкавання юбілею Янкі Купалы ў Вязынцы і стане галоўным "цвіком" тамтэйшага Рэспубліканскага свята паэзіі "Купалле".

**- Янка Купала і Якуб Колас... Магчыма, наіўнае пытанне, і ўсё ж: ці ёсць тут свае прыярытэты на дзяржаўным узроўні? Я маю на ўвазе - Купала АБО Колас?**

– Так нельга казаць. У чалавечым і творчым плане яны, безумоўна ж, вельмі розныя, але як адзін, так і другі – гэта падмурак нашай духоўнасці, нашай нацыянальнай культуры. І таму аніякіх прыярытэтаў тут няма. Абодва пакінулі вельмі вялікую і цікавую спадчыну, да якой мы штораз вяртаемся і штораз бачым у гэтай спадчыне сябе.

**- Напрыканцы акурат і хацелася пачуць вашую асабістую думку наконт актуальнасці творчасці класікаў у сённяшнім жыцці Беларусі...**

– Кожны геніяльны твор заўсёды сучасны. Сучаснікі Купалы і Коласа ў 1920-х знаходзілі ў іх творчасці нешта сваё, аматары літаратуры, напрыклад, у 1950-х гэтаксама знаходзілі там нешта сваё, і сёння, калі гартаеш старонкі іх бессмяротных твораў, здзіўляешся і захапляешся не толькі прафесійным майстэрствам, але і тым, наколькі глыбокае ў іх асэнсаванне жыцця, наколькі ўсё сучасна пададзена і як яшчэ доўга гэта ўсё будзе жыць сярод людзей.

Канешне, мы цяпер разумеем, што і Янка Купала, і Якуб Колас былі дзецьмі свайго часу, што пэўны адбітак на іх творчасць накладвалі тагачасныя палітычныя абставіны (і царскі, і савецкі рэжымы), але ўсё-такі геніяльны чалавек адрозніваецца ад звычайнага тым, што ён стаіць па-над зменлівымі палітычнымі вятрамі, ён адразу ўваходзіць у вечнасць. Менавіта таму, напэўна, і сёння нашы геніі цікавыя і актуальныя. На жаль, на мой погляд, мы ўсё ж малавата займаемся прапагандай іх творчасці. Толькі ад юбілею да юбілею гэта абвастраецца. А ёсць шмат яшчэ над чым працаваць і творцам, і навукоўцам. Пра гэта выразна сведчаць навукова-практычныя канферэнцыі: здаецца, у жыцці і творчасці Купалы і Коласа ўжо даўно ўсё даследавана нашай навукай, але кожны раз адкрываюцца новыя старонкі, новыя аспекты іх геніяльнасці! І, напэўна, такая работа будзе бясконцая і неабходная нашаму грамадству і нашай самастойнай рэспубліцы.

**- Дзякуй за гутарку. Поспехаў вам у здзяйсненні ўсіх юбілейных планаў.**

**Мікола ЧЭМЕР.**

# Гучыць слова песняроў

## Выпуск кніжных выданняў да 120-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа і Янкі Купалы

***З нагоды 120-гадовых юбілеяў пісьменнікаў у снежні 2001 года Урадам рэспублікі створаны Нацыянальны арганізацыйны камітэт па правядзенню ўрачыстасцей. Ім распрацавана вялікая культурная праграма, у мерапрыемствах якой задзейнічаны шматлікія міністэрствы, ведамствы, органы дзяржаўнага кіравання, творчыя саюзы. На Міністэрства інфармацыі разам з арганізацыйнымі пытаннямі і інфармацыйным забеспячэннем падрыхтоўкі і святкавання юбілеяў Коласа і Купалы ўскладзены кантроль за ажыццяўленнем выпуску кніжнай і сувенірнай прадукцыі. Зараз ідзе актыўная творчая работа па рэалізацыі гэтай часткі праграмы. Але ўжо сёння можна гаварыць і пра пэўныя вынікі, бо выпуск выданняў, прымеркаваных да святочных датаў, распачаты значна раней.***

Так, на працягу 2000–2001 гадоў убачылі свет 15 кніг твораў Коласа і Купалы і выданняў літаратуразнаўчага зместу пра іх, большасць з якіх выпушчана дзяржаўнымі выдавецтвамі "Мастацкая літаратура", "Юнацтва", "Беларуская навука": трылогія "На ростанях", паэма "Новая зямля", кніга аповесцей і апавяданняў "Дрыгва", томік паэзіі "Мой родны кут", кніжкі для дзяцей "Сымон-музыка", "Міхасёвы прыгоды" – Я.Коласа; кніга паэзіі для дзяцей сярэдняга і старэйшага ўзросту "Явар і каліна", вершы і паэмы, сабраныя ў кніжцы "Адвечная песня", 7-ы том збору твораў Я.Купалы. Тыраж выпушчаных выданняў складае ад 2 да 6 тыс.экз., а ў серыі "Школьная бібліятэка" – ад 20 да 37 і вышэй тыс.экз.

Пры гэтым трэба зазначыць, што ў межах рэспублікі тыраж 7 тыс.экз. з'яўляецца дастаткова высокім паказчыкам чытацкай запатрабаванасці, якая дакладна вывучаецца выдавецтвамі напярэдадні выдання кнігі. Практыка сведчыць, што апошнім часам заяўкі кніжнага гандлю маюць пэўную тэндэнцыю да павелічэння менавіта на творы класічнай айчыннай літаратуры. І тут перавага аддаецца такім імёнам, як Якуб Колас і Янка Купала, а разам з імі – творам У.Караткевіча, І.Мележа, В.Быкава, І.Шамякіна. Гэтая літаратура даўно праверана часам, увайшла ў школьныя праграмы і праграмы пазакласнага чытання, на ёй выхавана не адно пакаленне.

Апошнімі гадамі (1996–2001) выпуск творчай спадчыны паэтаў прадстаўлены мастацкімі творамі Я.Коласа, якія выдаваліся на беларускай мове 14 разоў агульным тыражом 189,7 тыс. экз., Я.Купалы – 11 разоў тыражом 104,4 тыс. экз.

Апрача гэтага, быў ажыццёўлены выпуск звыш 20 літаратуразнаўчых прац, навуковых даследаванняў, матэрыялаў навуковых канферэнцый "Каласавіны" і "Купалаўскія чытанні". Тут разам з дзяржаўнымі выдавецтвамі папрацавалі і недзяржаўныя выдавецкія прадпрыемствы – "Хата", "Беларускі кнігазбор", "Тэхнапрынт" і інш.

Найбольш поўную карціну выпуску мастацкай спадчыны Коласа і Купалы, пачынаючы з савецкіх часоў і заканчваючы сённяшнім днём, дае статыстыка друку. Дакладна ў рэспубліцы зарэгістравана выданне твораў Я.Коласа – 233 назвы агульным тыражом 6,0 млн.экз., у тым ліку на беларускай мове – 202 назвы тыражом 3,9 млн.экз.; Я.Купалы – 153 назвы тыражом 2,8 млн.экз., з іх на беларускай мове – 136 назваў тыражом 2,4 млн.экз.

Сёлета гэтыя лічбы папоўніць выпуск новых кніг, якія ўвайшлі ў дзяржаўную праграму выдання юбілейнай літаратуры ці былі пазней прымеркаваны і будуць выпушчаны да святочных датаў.

Уклад дзяржвыдавецтваў – дастаткова важкі.

Так, выдавецтва "Мастацкая літаратура" рыхтуе некалькі кніг:

– у серыі "ШБ" выйдзе раман Я.Коласа "На ростанях";

– будзе завершаны выпуск 9-томнага Збору твораў Купалы (свет пабачаць 8 і 9 тамы).

Асаблівай увагі заслугоўвае такі нечаканы праект, як юбілейная кніга "Санеты" Я.Купалы на 8 мовах. Ён ужо мае рэальнае аблічча ў выглядзе прывабнага і сучаснага па ўсіх еўрапейскіх стандартах і мерках макета, нядаўна зацверджанага мастацкім саветам Мінінфармацыі. Цікавасць выклікае ўжо само імкненне выдавецтва "Мастацкая літаратура" і складальнікаў кнігі (у іх ліку Літаратурны музей імя Я.Купалы і Міжнародны фонд Я.Купалы) – актуалізаваць малавядомы літаратурны факт: заснаванне Я.Купалам (а не М.Багдановічам, як лічылася раней) беларускай традыцыі санетапісання. 22 санеты, напісаныя паэтам (7 – на польскай і 15 – на беларускай мовах), пададзены ў кнізе ў арыгінале і ў перакладзе на англійскую, іспанскую, французскую, нямецкую, польскую, рускую, украінскую мовы. Афармленне кнігі выканана мастаком Аляксандрам Царовым. Выданне дазволіць істотна пашырыць кола прыхільнікаў паэтычнай спадчыны Янкі Купалы ў краінах блізкага і далёкага замежжа.

Акрамя гэтага, у планах "Мастацкай літаратуры" на самы бліжэйшы час – выпуск Збору твораў Я.Коласа прыкладна ў 15–18 тамах.

Выдавецтва "Юнацтва" плануе поўнасцю прысвяціць чарговы штогоднік, зборнік "Бацькаўшчына", песнярам беларускай літаратуры. Таксама ў працы знаходзяцца кніга земляка Я.Коласа Сяргея Галоўкі – "Дзе льецца Неман срэбраводны", у якой шмат старонак прысвечана малавядомым фактам з жыцця і творчасці нашых класікаў, кніга Івана Курбекі "Запрашэнне ў музей" – пра Літаратурны музей Я.Коласа. Адначасова ў выдавецтве ідзе праца (за межамі запланаванага) над унікальнай кнігай, у якой будуць змешчаны паэтычныя і празаічныя творы 35 пісьменнікаў з адной вёскі – вёскі Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна – радзімы Я.Коласа.

Выдавецтвам "Беларуская навука" будзе выпушчаны ў свет напярэдадні юбілею 4-ы том "Слоўніка мовы Я.Купалы". Плануецца таксама выданне падрыхтаваных Інстытутам літаратуры імя Я.Купалы НАН Беларусі даследаванняў спадчыны пісьменнікаў:

– У.Гніламёдаў "Купала і сучасны погляд";

– В.Жураўлёў "Актуальнасць традыцый на матэрыяле творчасці Я.Коласа і Я.Купалы";

– С.Лаўшук."Драматургія Я.Купалы і Я.Коласа".

Альбомы-буклеты па купалаўскіх і коласаўскіх мясцінах выйдуць у выдавецтве "Універсітэцкае".

Шыкоўнае падарункавае выданне – а ім стала менавіта паэма Я.Коласа "Новая зямля" на трох мовах (беларускай, рускай, польскай) – падрыхтавана Беларускім фондам культуры. Твор з'яўляецца адным з самых ілюстраваных мастацкіх выданняў. Тут змешчана 90 арыгінальных ілюстрацый, зробленых вядомым мастаком Васілём Шаранговічам.

Выдавецтвам "Беларускі кнігазбор" прымеркаваны да святаў выпуск кнігі паэзіі Я.Купалы ў аднайменнай, шырока вядомай чытачам серыі. А выдавецтва "Тэхналогія" рыхтуе двухмоўны зборнік вершаў (бел., польск. мовы) Я.Купалы.

Беларускім таварыствам "Кніга" ў серыі "Народная бібліятэка" будуць выдадзены п'есы і публіцыстыка Я.Купалы, зборнік з творамі Я.Коласа "Новая зямля", "Сымон-музыка". Акрамя таго, таварыствам у серыі "Скарбы беларускай літаратуры і фальклору" (кнігі-малюткі) запланаваны выпуск лірычных твораў Я.Купалы і Я.Коласа.

**Алена ШЫЦІК.**



Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны прыёмнай рэдакцыі: 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-90-63, 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-53-22; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання — 36-43-71; інфармацыі — 36-43-71; навукі і ВНУ — 36-44-25; кіравання адукацыяй, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.
ФАКС: 36-53-22, bng@e-mail.ru

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.
Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Ала КЛЮЙКО.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», 220013, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12. Заказ № 2067
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 10.4.2002 г. у 18.10
Тыраж 30.000 экзэмпляраў.